# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух «За Свабоду» Выпуск №7 ліпень 2016 году



## Выбары як Алімпіяда

працяг на стар. 4-5

**Першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч параўноўвае выбары і Алімпіяду, тлумачыць, чаму Захад ужо не настолькі «строгі» да афіцыйнага Мінска, распавядае, як з-за вылучэння Таццяны Караткевіч развалілася кампанія «Народны рэферэндум», і дзеліцца думкамі наконт будучыні арганізацыі.**



Вось чаму, напрыклад, Юрась Губарэвіч разам з шэрагам іншых рухаўцаў бярэ ўдзел у парламенцкіх выбарах-2016:

- Я глыбока перакананы, што рана ці позна ў Беларусі адбудуцца дэмакратычныя выбары, на якіх будуць сумленна лічыць галасы. Выбары можна параўнаць са спартыўнымі спаборніцтвамі – немагчыма выйграць Алімпіяду, калі не рыхтавацца і не трэніравацца.

На тых будучых дэмакратычных выбарах канкурэнцыя будзе яшчэ больш жорсткая, чым зараз.

## Подпісы: ад пікетаў да лазні

**Вынікі першага этапа выбарчай кампаніі - 15700 подпісаў сабрана ў падтрымку кандыдатаў ад Руху «За Свабоду», подпісы здадзеныя ад 10 чалавек (астатнія рухаўцы вылучаюцца ад партый).**




Што да кіраўніцтва арганізацыі, то 1423 подпісы аднес у вабарчую камісію 108-й Каліноўскай акругі ў сталіцы першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. 1100 падаў з 1800 сабраных намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь Лагвінец, які таксама балатуецца ў Мінску - па 101-й Сухараўскай акрузе. «Вялікі дзякуй маёй камандзе. Алесь Лагвінец — гэта яны!» — дадаў ён.

1049 подпісаў падаў Віктар Янчурэвіч, які вылучаецца па 110-й Партызанскай акрузе Мінска. Па яговых словах, перашкодаў з боку ўладаў не было: «Складана ішоў збор подпісаў, бо цяпер сезон адпачынкаў. Пад'езды — пустыя. Акрамя таго, з большага ў людзей не звязаныя выбары з нейкай надзеяй на перамены і паляпшэннем якасці жыцця».

**працяг на стар.2**

# Подпісы: ад пікетаў да лазні (працяг ад стар. 1)



Янчурэвіч зазначае, што яны з камандай «усё зрабілі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, спадзяемся, што ўлады не знойдуць падставаў для адмовы ў рэгістрацыі».

1174 подпісы ў Вілейскую акруговую камісію №74 (Мінская вобласць) здаў кандыдат ад Руху «За Свабоду» Максім Ціханаў: «Вялікі дзякуй усім за падтрымку, а таксама дзякуй маёй ініцыятыўнай групе за выкананую працу!». «1186 здалі з 1800 прыкладна сабраных», — падвынікаваў сябра Рады Руху «За Свабоду» Андрэй Юркоў, які ідзе па Горацкай акрузе №82. Кажа, што подпісы было збіраць цяжкавата, бо людзей мала, а «поле» — добрае, апрацаванае. «Горкі разумеюць сітуацыю, у Мсціславе было цяжэй, але трэба працаваць і далей», — адзначыў Юркоў. 2500 подпісаў сабралі, а падалі роўна палову па Навагрудскай акрузе № 57 Вадзіма Левана.

У кандыдата ад Руху па Баранавіцкай-Заходняй акрузе №5 Юрыя Казакевіча - 1260 выніковых подпісаў: «Калі мы хадзілі па кватэрах, то змаглі лепей зразумець лепей настрой у грамадстве, сустрэць новых прыхільнікаў, магчыма, будучых актывістаў і проста неабыякавых людзей. Гэта адна з нашых галоўных мэтаў — заявіць пра сябе, расказаць пра свае прапановы, павялічыць колькасць прыхільнікаў». «Улічваючы, што шмат людзей дома няма – лета, адпачынак, 60-70% добра падпісваліся, такіх ярых, якія супраць, гэта былі адзінкі. І яшчэ 10% абыякавых», — дадаў кіраўнік штаба Казакевіча, старшыня баранавіцкай суполцы Руху «За Свабоду» Уладзімір Гундар. Па ягоных словах, куды лепей ішоў збор подпісаў па кватэрах, а пікеты былі рэкламай.

«Мы здалі 1253 подпісы», - кандыдат ад Руху «За Свабоду» па Брэсцкай-Заходняй акрузе №1, мясцовы вядомы




відэаблогер Сяргей Пятрухін. Подпісы назбіраныя камандай з пяці асобаў, плюс былі 3-4 чалавекі, якія прынеслі па 30-40 подпісаў: «Вельмі спадабалася. Вельмі добрая пазнавальнасць. Ставілі пікеты, хадзілі па кватэрах, у лазні падпісваліся, бо я туды хаджу шмат год, ведаюць людзі. Дамаўляюся - і яны прыходзілі з пашпартамі».

«Мы збіралі ў Віцебску за двух кандыдатаў - старшыню віцебскага аддзялення Руху Хрыстафора Жаляпава (па Віцебскай-Горкаўскай акрузе №17) і сябра Руху „За Свабоду“ Георгія Станкевіча (па Віцебскай-Чыгуначнай акрузе № 19)», — распавёў сябра Руху «За Свабоду» Аляксей Гаўруцікаў. У асноўным, па ягоных словах, яны збіралі подпісы па кватэрах і па меры магчымасці ладзілі пікеты – і тыя амаль нічога не далі.

Па ягоных падліках, у 80% кватэраў не было жыхароў, 80% з тых, хто адчыняў дзверы, негатыўна рэагавалі, а «астатніх удалося пераканаць». «Насельніцтва празамбавана тэлебачаннем. І час для збору подпісаў быў абраны не самы лепшы — лета: то дождж, то гарачыня. Мы мелі план у 1000 подпісаў за кожнага з кандыдатаў, і мы яго выканалі, не ставілі мэту сабраць болей, гэта і складана было фізічна», — дадаў Гаўруцікаў. Па ягоных словах, ён сам таксама балатуецца пры падтрымцы Руху «За Свабоду», але ягоная Сеннецкая акруга №30 вельмі складаная, бо складаецца з чатырох сельскіх раёнаў, таму ён абраў партыйнае вылучэнне.



# Выбарчая помста



**Актывістка Руху «За Свабоду» Вольга Дамаскіна праз удзел у выбарах звольненая з Музея традыцыйнага ручнога ткацтва Паазер'я.**

Пры канцы чэрвеня адміністрацыя Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка адмовілася працягваць кантракт з актывісткай Руху «За Свабоду» Вольгай Дамаскінай. Яна заявіла кіраўніцтву пра сваё жаданне балатавацца у парламент і лічыць звальненне палітычна матываваным. Прафкам адмовіўся дапамагаць Дамаскінай у справе захавання працы.

«31 ліпеня фармальна быў апошні мой працоўны дзень. Звальненне адбылося ў сувязі з заканчэннем кантракта. Але, на маю думку, яно адбылося толькі праз тое, што я заявіла пра свой удзел у выбарах», — перакананая Дамаскіна.

Яна лічыць, рашэнне пра яе звальненне было неабдуманым і спантанным. «На маё месца так і не знайшлі нікога. Калегі, якім прапаноўвалі гэтае месца, — адмовіліся. Там, што трэба поўнасцю мяняць свой профіль, сваю дзейнасць і пачынаць усе з нуля», — патлумачыла актывістка Руху.

Па словах Дамаскінай, усё, што было пад яе адказнасцю, яна перадала вядучаму навуковуму супрацоўніку музея, але тая яшчэ не адпрацавала 5 гадоў у запаведніку, а "па службовай інструкцыі на пасаду загадчыка музея выстаўляюць кваліфікацыйныя патрабаванні: вышэйшая профільная адукацыя, добрае валоданне беларускай мовай і стаж музейнай працы не менш за 5 гадоў».

Яна чакае адказу ад абласной прафсаюзнай арганізацыі работнікаў культуры на свой зварот. «Ведаю, што яны запатрабавалі пратакол пасяджэння нашага прафкаму і ведаю, што званілі дарэктару. Таму што сакратарка вельмі хутка прыбегла да мяне ў музей, каб я падпісала, што азнаёмленая з загадам аб звальненні, што ў практыкі запаведніка такога не было. Звычайна выклікаюць у адміністрацыю - і там падпісваюць», — адзначыла актывістка Руху.

Але на дапамогу ад прафсаюзу яна не разлічвае, кажа, што «хутчэй за ўсе будзе нейкая адпіска».

«Я думаю, што дырэктарка чакала, што я буду прасіцца, каб застацца на працы. Я не прасілася. А ёй гонар не дазволіў самой мне прапанаваць што-небудзь. Цяпер я думаю, што адміністрацыя пастаўлена ў тупіковую сітуацыю, таму што мяне няма, а дзяўчаты, што працуюць у музеі, — навуковыя супрацоўнікі, адна праз два месяцы пойдзе ў "дэкрэт", а другая выходзіць замуж. Думаю, што ў хуткім часе і яна пойдзе», — дадала Вольга Дамаскіна.

Музей будзе вымушаны шукаць новых супрацоўнікаў, заключыла яна.



# Выбары як Алімпіяда (працяг ад стар. 1)



І гэта разумее не толькі апазіцыя, але і ўлада. Кандыдатам ад уладаў раней было дастаткова проста прыносіць свае дакументы, іх адразу рэгістравалі, і праз месяц выдавалі дэпутацкія мандаты. А зараз іх "выганяюць у поле" – яны стаяць у пікетах, ходзяць па кватэрах, збіраюць подпісы. Бо яны разумеюць, што ва ўмовах дэмакратычных выбарах ніхто ім не падорыць дэпутацкае месца, за яго трэба будзе змагацца. Тым больш гэта павінна разумець і апазіцыя. І хаця мы цудоўна ведаем, па якіх правілах праходзіць цяперашняя кампанія – мы павінны умець выконваць выбарчыя працэдуры, рыхтаваць свае каманды, быць у сталым кантакце з выбарцамі, жыць іхнімі праблемамі – толькі ў гэтым выпадку можна дасягнуць поспеху.

Мая асабістая гісторыя сведчыць пра тое, што «"цуды здараюцца». Нават ва ўмовах цяперашняй палітычнай сістэмы можна перамагаць. Маю на ўвазе свой досвед 2003 году, калі я стаў дэпутатам і намеснікам старшыні Белаазёрскага гарадскога Савету. Мы тады пайшлі на выбары камандай, і здолелі ўзяць большасць у гарсавеце.

**- Чым для вас стаў этап збору подпісаў? Ці атрымалі вы той водгук ад насельніцтва, які чакалі? Ці зараз большую частку людзей апанавала апатыя? Альбо нейкія нестандартныя хады кандыдатаў змаглі расштурхаць насельніцтва?**

- На самой справе ўзровень апатыі насельніцтва досыць высокі, і ён павялічваецца ад кампаніі да кампаніі. Бо людзі разумеюць, што гэта несумленная гульня, і яе фінал прадказальны. Аднак, што мяне здзівіла падчас гэтых выбараў – гэта крытычна нізкі ўзровень даверу да існуючай улады. Выбарцы не вераць, што цяперашняя каманда здольная нешта змяніць. Адчуваюць на сябе эканамічны крызіс, але бачаць, што ўлада не можа з ім справіцца.

Таксама вельмі адчувальная розніца паміж Мінскам і рэгіёнамі. Разам з іншымі лідарамі нашай правацэнтрысцкай кааліцыі я наведваў шэраг рэгіёнаў краіны, мы падтрымлівалі там нашых кандыдатаў. Дык вось адно з адкрыццяў гэтай кампаніі: калі раней Мінск быў самым пратэстным горадам Беларусі, то зараз пратэстнымі можна назваць рэгіёны. Відавочна, гэта адбылося таму, што эканамічны крызіс там адчуваецца найбольш востра, і ў людзей ужо не хапае запасу трываласці.

**- У гэтай кампаніі, як і ўвогуле апошні год, апазіцыйныя палітычныя структуры дзейнічаюць ва ўмовах адноснай лібералізацыі – пікеты не разганяюць, удзельнікаў не затрымліваюць, улада нават ідзе на пэўную «мяккую беларусізацыю». Па-вашаму, ці можна чакаць, што гэтая тэндэнцыя працягнецца і пасля выбараў, ці яна «вісіць на валаску», і ў самой уладзе ёсць моцная апазіцыя гэтай нават мяккай лібералізацыі.**

- Троху змянілася рыторыка – але не мяняецца сутнасць. Улада па-ранейшаму трымае пад жорсткім кантролем усе палітычныя і грамадскія інстытуты, няма ніякага прагрэсу ў галіне свабоды слова. Так, людзей перасталі хапаць і збіваць на вуліцах, аднак гэта не азначае, што з'явілася больш свабоды і магчымасцяў для данясення альтэрнатыўнай пазіцыі.

У цяперашняй улады існуе моцная прывязка да Расіі, з іншага боку – адчуванне небяспекі з таго боку. Разам з тым Лукашэнка разумее, што моцнае і публічнае аддаленне ад Расіі толькі павялічвае гэтую небяспеку. Бадай, упершыню за апошнія гады Лукашэнка зразумеў, што пагроза ягонай уладзе з боку Расіі больш сур'ёзная, чым патэнцыйная небяспека ад выканання патрабаванняў Захаду.

**- Тым больш што сам Захад на фоне геапалітычнай карціны пайшоў на відавочнае змякчэнне сваіх патрабаванняў да афіцыйнага Мінска, больш мяккае стаўленне да сённяшняй улады.**

- Захад вымушаны выбіраць паміж дэмакратыяй у Беларусі і незалежнасцю Беларусі. Пры гэтым цудоўна разумеючы, што калі наша краіна патрапіць пад поўны кантроль рэжыму Пуці-




на, то пра змены і дэмакратыю можна будзе забыць. Таму яны зараз абіраюць стратэгію падтрымання незалежнасці Беларусі у спадзяванні, што гэта ў перспектыве можа даць і дэмакратычнае развіццё.

**- Усе даўно звыкліся, што ў беларускай апазіцыі адбываецца пэўны «броўнаўскі рух» – стваракоцца аб'яднанні і кааліцыі, якія даволі лёгка і хутка распадаюцца. У гэтым аспекце -- наколькі трывалая і доўгатэрміновая ваша правацэнтрысцкая кааліцыя, якая дзейнічае амаль год і аб'ядноўвае АГП, БХД і Рух «За Свабоду»? І чаму распалася ваша папярэдняя кааліцыя ў рамках кампаніі «Народны рэферэндум»?**

- Любая супраца будуецца на некалькіх апірышчах -- узаемны давер, супольная практычная дзейнасць і роўнасць суб'ектаў у праве прыняцця рашэнняў. Я вельмі станоўча ацэньваю тое, што мы рабілі ў рамках «Народнага рэферэндуму» – гэтыя мэты не губляюць актуальнасць і сёння.

Аднак мы не здолелі дамовіцца па ключавым пытанні – як мы праводзім прэзідэнцкую кампанію. Было відавочна, што слабы і не вядомы кандыдат не збярэ подпісы. І для Руху «За Свабоду» прынцыпова было не ўляпацца ў сітуацыю, калі нам давядзецца дзякаваць за поспехі ў выбарчай кампаніі выключна ўладам, а не выбарцам і нашым актывістам. Так і адбылося. Для рэжыму вылучэнне Таццяны Караткевіч было найменшым злом, а для Руху «За Свабоду» было не прымальным удзельнічаць у спектаклі, дзе ролі распісаныя не намі. Наша пазіцыя не была пачута, і гэта фактычна прывяло да распаду кампаніі «Народны рэферэндум».

Колькі праіснуе правацэнтрысцкая кааліцыя? Мне хацелася б верыць, што дастаткова доўга. Той кропкай, да якой яна павінна працаваць супольна – гэта пачатак дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі, першыя свабодныя выбары, на якія кааліцыя можа пайсці адзіным блокам. Мы аб'ядналіся на базе супольных каштоўнасцей – еўрапейскі выбар для Беларусі, незалежнасць, дэмакратыя, правы чалавека, рынкавыя рэформы.

**- На сёння галоўная інтрыга выбараў — ці прапусціць улада ў Палату Таццяну Караткевіч? Але чаму б уладзе не прапусціць туды Юрася Губарэвіча?**

- Яшчэ некалькі месяцаў таму інтрыга была ў тым, ці здольная ўлада выканаць свае абяцанні і правесці выбары па рэальна дэмакратычных працэдурах. Па выніках фармавання выбарчых камісій мы ўжо бачым, што гэта не так. Таму інтрыга, якая засталася – ці трапяць у Палату Прадстаўнікоў людзі, незалежныя ад улады, якія здольныя ў сваёй акрузе атрымаць электаральную перамогу, здабыць галасы большасці выбарцаў. Такіх людзей сярод кандыдатаў у дэпутаты некалькі дзясяткаў. Я перакананы, што магу быць сярод іх.

**- Кіраўнік Руху «За Свабоду» Аляксандар Мілінкевіч ужо неаднаразова казаў, што прыйшоў час маладых палітыкаў, што трэба саступаць ім месца. Некаторыя ўспрымаюць гэта так, што прыйшоў час і замены на пасадзе кіраўніка руху «За Свабоду». Калі адбудзецца гэтая змена пакаленняў у Руху?**

- Аляксандар Мілінкевіч за ўвесь час сваёй дзейнасці засведчыў, што ён не трымаецца за свае рэгаліі, калі гэта не вядзе да еднасці і крокаў наперад. У прыклад можна прывесці і




апошнія прэзідэнцкія выбары, калі Аляксандр Мілінкевіч адмовіўся ў іх удзельнічаць, бо ўбачыў, што ня будзе рэальнага аб'яднання, а значыць, і выніку. У сітуацыі з Рухам ён адзначае, што гатовы саступіць месца старшыні, і даўно ўжо аддаў досыць шырокія паўнамоцтвы сваёй камандзе. У нас бліжэйшая справаздачна-выбарчая канферэнцыя адбудзецца ў кастрычніку, і цалкам магчыма, што ўжо там новая асоба ўзначаліць Рух «За Свабоду».

**- Вы будзеце вылучацца на старшыню?**

- Так, я планую гэта. У Рух прыйшлі новыя людзі, з якімі я звязваю бліжэйшыя перспектывы для нашай арганізацыі, з якімі мы будуем стратэгічныя планы.

На момант стварэння Рух быў структурай, глыбока арыентаванай на канкрэтнага лідара – ён стварыўся ў 2006 годзе фактычна на базе выбарчага штабу Аляксандра Мілінкевіча. Але за гэты час Рух прайшоў досыць грунтоўную эвалюцыю, і зараз гэта арганізацыя, якая будзе існаваць незалежна ад таго, хто можа яе ўзначаліць. Мы вызначылі свае мэты, маем стратэгію, і ведаем, куды мы рухаемся.

# Пікеты ў слушных колерах

**Бадай, самымі кідкімі, рэзанаснымі і масавымі былі падчас кампаніі па зборы подпісаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты пікеты ў падтрымку намесніка старшыні Руху «За Свабоду» Алеся Лагвінца.**

Некалькі бел-чырвона-беласцяжных пікетаў было арганізавана на мосце праз Мінскую кольцавую аўтадарогу каля мікрараёна Сухарава. А пікет на 27 ліпеня, колішні Дзень незалежнасці, з удзелам Лявона Вольскага сабраў ажно паўтары тысячы чалавек. Апрача канцэрта вядомага музыкі, перформанс зладзіў мастак Алесь Пушкін, вершы прачытала паэтка Валярына Кустава, а вёў мерапрыемства Юрый Жыгамонт. Глядзеўся і «лагвінцамабіль», як ахрысцілі прычэп з інфастэндамі палітыка журналісты.

Вынік яркай кампаніі – два папярэджанні ад акруговай выбарчай камісіі.





(c) Уладзь Грыдзін









# Адгадай дэпутата

**Рух «За Свабоду» абвясціў «Палітычны таталізатар-2016» на выніку парламенцкіх выбараў: трэба адгадаць прызначэнцаў у парламент. Пераможца можа атрымаць каштоўны прыз.**




Для ўдзелу ў таталізатары трэба зайсці на адмысловы сайт 2016.pyx.by і абраць прозвішчы асобаў, якія балатуюцца і якія, на вашае прадбачанне, з найбольшай верагоднасцю трапяць у парламент.

Таталізатар запрацуе пасля завяршэння рэгістрацыі кандыдатаў (пасля 12 жніўня), пакуль жа можна пакідаць адрас электроннай пошты для атрымання запрашэння-напамінку.

«Палітычны таталізатар» будзе працаваць у двух рэжымах - рэгіянальным (можна адгадваць па сваёй вобласці/Мінску) і агульным (увесь склад парламенту). Па выніках будуць узнагароджаныя восем чалавек: сем за рэгіянальныя этапы (прызы - флэшкі) і нехта атрымае супер-прыз за ўгадванне прозвішчаў усіх дэпутатаў ці максімальна большай колькасці.

Удзельнічаць у «Палітычным таталізатары» могуць жыхары Беларусі старэшыя за 18 год, акрамя супрацоўнікаў ЦВК і чыноўнікаў ад абласнога ўзроўню і вышэй.

Абавязковай умовай удзелу ў розыгрышы з'яўляецца рэпост (дзяльба) сваімі прагнозамі ў адной з трох сацыяльных сетак (Facebook, «Вконтакте», «Одноклассники»).

Вынікі беларускіх выбараў — ужо шмат год прадказальныя, переможцу/пераможцаў можна адгадаць задоўга да правядзення галасавання, адзначыў ініцыятар правядзення «Палітычнага таталізатару», першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч.

Ён нагадаў, што вынікі пераможцы «Палітычнага таталізатара-2015», у якім угадвалі прэзідэнта Беларусі, разышліся з афіцыйнымі толькі на дзясятыя долі працэнта.

«Цяпер праходзіць чарговая выбарчая кампанія, — адзначыў Губарэвіч. — Мы заклікаем беларусаў да актыўнага ўдзелу ў ёй – да падтрымкі правацэнтрысцкіх кандыдатаў. Але і прапануем разам пасмяяцца з выбарчага фарсу і такім чынам выказаць пратэст супраць існуючай сістэмы прызначэнняў дэпутатаў».

# Візіт еўраалтымістаў

працяг на стар. 8

**У Мінску прайшла сумесная канферэнцыя правацэнтрысцкай кааліцыіі і Еўрапейскай народнай партыі пад назвай «Кансерватыўныя каштоўнасці ў сучаснай палітыцы».**

«У адрозненне ад вас або тых краінаў, што патрапілі пад савецкае панаванне, мы, людзі ў Заходняй Еўропе, доўгія часы пасля Другой сусветнай вайны жылі ў прасторы, дзе панавала дэмакратыя, была бяспека і свабода. Таму некаторыя людзі забыліся, што такое змагацца за свабоду і вольнасць. Але ў ЕНП мы пра гэта не забыліся», — сказаў удзельнікам канферэнцыі генеральны сакратар Еўрапейскай народнай партыі Антоніа Лопес-Істурыс.

Сярод праблемаў па-за межамі ЕЗ, якія турбуюць звяз, ён назваў «неапраўданае ўварванне ў Крым». «Гэта прычына шматлікіх праблемаў і выклікае велізарную колькасць перасцярогаў і страху ў Еўропе», — падкрэсліў Лопес-Істурыс.

«У гэтыя складаныя часы наступіў той момант, калі Прадстаўніцтвам ЕЗ у Беларусі мусіць выпрацавацца супольны падыход. Але не любым коштам», — падкрэсліў генсек ЕНП. Па ягоную думку, «мы ўсе мусім палепшыцца і зрабіць намаганні, каб палепшыць нашыя стасункі».

«ЕЗ зрабіў ужо значныя крокі, скасаваў санкцыі, фінансаванне з боку ЕЗ падвоілася. Я думаю, надышоў час, каб сказаць, што гэтага ўжо шмат», — сказаў еўрапейскі палітык. Ён дадаў, што ў Беларусі ў верасні будуць выбары - «і ўжо пайшлі пэўныя дэжавю. Але давайце ўсе разам працаваць, каб у нас не было такога адчування ў верасні».

# Візіт еўрааптымістаў

## (працяг ад стар. 1)



«Я не веру ў рэвалюцыі. Я веру ў эвалюцыю. Мы не хочам, каб людзі баяліся, каб было шмат страху, шмат нестабільнасці. Мы хочам, каб усё адбывалася разумна, пакрокава, паступова і на карысць грамадзянаў Беларусі», — дадаў Антонія Лопес-Істурыс.

Ён агучыў пажаданні да беларускіх уладаў: рэгістрацыя партыяў, адсутнасць запужвання кандыдатаў у парламент і палітыкаў, адсутнасць палітычных вязняў, прадстаўніцтва кандыдатаў у выбаркамах, каб «народ меў сваіх прадстаўнікоў у парламенце і мог сам вырашаць, што лепшае для Беларусі». «Менавіта ўлады павінны зразумець і зрабіць належныя крокі ў гэтым кірунку», — сказаў еўрапейскі палітык.

«Беларусь — гэта вельмі важная краіна. Для Еўропы. Для Расіі. Для іншых. Мы хацелі б, каб Беларусь пайшла па еўрапейскім шляху. Беларусь — Еўропа. Вы не ў Еўрапейскім звязе, але для мяне гэта не істотна», — сказаў еўрапейскі палітык. «Мая мара, каб у Беларусі было прадстаўніцтва розных палітычных партыяў, каб яны маглі выйграваць і прайграваць свабодныя і справядлівыя выбары. Я ўпэўнены, што гэтая мара калісьці здзейсніцца», — заключыў ён.

Візітам еўрааптымізму назваў гэты візіт старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

«У дэмакратычнай апазіцыі Беларусі фактычная большасць людзей вераць у еўрапейскую будучыню Беларусі і ведаюць, што мы еўрапейцы не толькі геаграфічна, а па гісторыі, па мове, па культуры, — патлумачыў Мілінкевіч. — І адзінага, чаго апошнім часам не хапае, — веры ў тое, што ў нас атрымаецца. Некаторыя кажуць: „Я не дажыву да гэтага“. А хочацца пажыць, калі мы возьмем дарогу сапраўдную на Еўропу».

«Чаму дыялог, які робіць Еўропа, — важны? — паразважаў старшыня Руху. — Таму што калі ёсць побач агрэсіўны сусед, які праводзіць анексіі, калі ёсць краіна, якая праз тэлебачанне сваё выхоўвае ў людзях нянавісць, ёсць пагроза нашай незалежнасці, дыялог проста неабходны. Бо дыялог — гэта адзіная магчымасць супрацьстаяць гэтай агрэсіі і адстаяць незалежнасць». Дыялог, акрамя таго, па словах Мілінкевіча, дае шанец на тое, што вызваляюць палітвязняў, дае шанец на працу з насельніцтвам, адкрывае акно магчымасцяў.

«І яшчэ, калі ёсць дыялог, менш антыеўрапейскіх, антыдэмакратычных настрояў. Бо людзі пачынаюць верыць, што ў нас ёсць шанец і з Еўропай сябраваць», — патлумачыў ён. Пры гэтым старшыня Руху звярнуў увагу, што «дыялог дыялогу — розніца: дыялог мусіць быць крытычны і абумоўлены, на грунце каштоўнасцяў».

«Па сутнасці, выбараў няма. Без пакрокавай праграмы, без „дарожнай мапы“ нічога не будзе. Таму што ўлады будуць распавядаць пра лепшыя выбары, сустракаць з самаварам і печывам і расказваць казкі. На шчасце, заходнія назіральнікі ў большасці сваёй у гэта не вераць», — патлумачыў Аляксандр Мілінкевіч. Еўрапейцы, якія ацэньваюць выбары, першае слова павінны казаць, лічыць ён, такое: «Вы павінны разам з дэмакратамі лічыць галасы». «Не асобна ўлада лічыць, а мы назіраем з вялікай адлегласці. Пакуль няма сумеснага падліку галасоў, Еўропа ніякія выбары прызнаць не можа», — падкрэсліў Мілінкевіч.

Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 10.08.2016 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by